**Гродна**
№4 (439),
21 лютага 2016

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ





## ВЯЛІКІ ПОСТ 2016. ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЦЯМ АДМОВІЦЦА АД ГАДЖЭТАЎ

*Яшчэ некалькі гадоў таму найбольш папулярнай адмовай на перыяд Вялікага посту сярод дзяцей лічылася адмова ад салодкага ў розных яго праявах. Але сёння ўжо наўрад ці хто будзе вельмі моцна перажываць з-за таго, што бліжэйшыя сорак дзён трэба забыцца пра цукеркі. Чаму? Бо ёсць іншыя рэчы, без якіх дзеці самых розных узростаў не ўяўляюць свайго жыцця: тэлефоны, планшэты, ноўтбукі...*

• працяг на с. 3

## ПЕРШАЯ Ў ГІСТОРЫІ СУСТРЭЧА ПАПЫ І ПАТРЫЯРХА

КАМЕНТАРЫЙ АРЦЫБІСКУПА ТАДЭВУША КАНДРУСЕВІЧА СТАР. 5



*Кіраўнікі хрысціянскіх Цэркваў абмеркавалі шэраг праблем, з якімі сутыкнуўся свет*

***Папа Рымскі Францішак і Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл сустрэліся на Кубе. Падзея здзейснілася ўпершыню пасля Вялікага расколу 1054 года. Вынікам перамоваў стала падпісанне сумеснай дэкларацыі.***

Пытанне аб правядзенні мерапрыемства абмяркоўвалася каля 20 гадоў. Сустрэча адбылася 12 лютага ў 14.25 па мясцовым часе ў аэрапорце Гаваны. Як растлумачылі спікеры абедзвюх Цэркваў, месца для дыялогу было абрана невыпадкова: папа Францішак пачынае свой апостальскі візіт у Мексіку, а патрыярх Кірыл даўно планаваў наведаць Кубу.

• працяг на с. 5

### Каляндар падзей

***22 лютага***
*свята катэдры св. Пятра. Молімся за Святога Айца і Паўсюдны Касцёл.*

***28 лютага***
*III Нядзеля Вялікага посту. Нацыянальны дзень "Карытас".*

***4 сакавіка***
*свята св. Казіміра, заступніка дыяцэзіі.*

***Заахвочваем вернікаў да ўдзелу ў пакаянных набажэнствах (Крыжовы шлях і Песні жальбы), а таксама ў велікапосных рэкалекцыях у парафіях.***

### Запрашаем!

***Праграма каталіцкай рэдакцыі***

***"Сімвал веры"***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-4"*
***5 красавіка***
***ў аўторак у 19.45***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

### Ружанцовыя інтэнцыі:

***Сакавік***

*Аб ласцы навяртання і сапраўдным паяднанні з Богам і бліжнімі для непрактыкуючых вернікаў.*

*Аб узрастанні дабрачыннай дзейнасці ў парафіяльных супольнасцях.*

### Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

***Ці прымаеце Вы ўдзел у гучных забавах падчас Вялікага посту?***

- так, 23 лютага
- так, 8 сакавіка
- так, хаджу на дыскатэкі, але радзей
- у маім жыцці нічога не змяняецца
- так, у мяне Дзень нараджэння ў гэты час, я святкую
- я вымушаны(на) удзельнічаць у гучных забавах, бо мая праца звязана з гэтым
- так, мяне запрашаюць на мерапрыемствы, я іду туды з ветлівасці
- не, святкаванне я пераношу на перыяд па-за Вялікім постам
- не, мяне запрашаюць на мерапрыемствы, але я адмаўляюся
- не, у мяне дома ў гэты час не адбываецца гучных забаў
- не разумею абмежаванняў Касцёла
- цяжка сказаць

 **выкажыся**

**"Мы выбралі Езуса, а не сатану; хочам ісці за Ім, але ведаем, што гэта нялёгка" – папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### II НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

**Лк 9, 28б–36**

Езус узяў з сабою Пятра, Яна і Якуба і ўзышоў на гару памаліцца. І калі Ён маліўся, выгляд твару Ягонага перамяніўся, і вопратка Ягоная стала бліскуча-белай. І вось два мужы размаўлялі з Ім, а былі гэта Майсей і Ілля. Яны з’явіліся ў славе і казалі пра Ягоны адыход, які Ён павінен здзейсніць у Ерузалеме. Пётр і тыя, хто быў разам з ім, былі зморaныя сном. Калі ж абудзіліся, убачылі славу Яго і двух мужоў, якія стаялі разам з Ім. А калі яны адыходзілі адтуль, Пётр сказаў Езусу: “Настаўнік, добра нам тут быць. Паставім тры шатры: адзін для Цябе, адзін для Майсея і адзін для Іллі”. Не ведаў ён, што казаў. Калі гаварыў гэта, з’явілася воблака і агарнула іх. І спалохаліся яны, калі ўвайшлі ў воблака. А з воблака пачуўся голас, які казаў: “Гэта Сын Мой выбраны, Яго слухайце”. І калі гучаў гэты голас, Езус апынуўся адзін. І маўчалі яны, і ў тыя дні нікому нічога не казалі пра тое, што бачылі.

### ЦЯЖКАЯ, АЛЕ АБАВЯЗКОВАЯ ПРЫСУТНАСЦЬ

Перамяненне Пана тлумачыць нам, што адарацыя з’яўляецца самай правільнай пастаwай чалавека ў адносінах да Бога. Бог з’яўляецца для нас бяздоннай таямніцай, Яго прысутнасць заўсёды будзе абуджаць у нас страх, змешаны са збянтэжанасцю. Невыпадкова Пан Езус перад аблічам ужо недалёкай пакуты захацеў паказаць сваім вучням сваё Боскае Аблічча. У хуткім часе яны ўбачаць ужо зусім іншае Аблічча свайго Настаўніка: у цярновым вянку, пагарджанае і зняважанае. Усё цела Збаўцы закране і знішчыць грэх. Якое Аблічча сапраўднае? Тое, якое яны бачылі на гары Перамянення, ці гэтае – з Галгофы?..

Апосталы знойдуць адказ толькі перад пустым гробам і ў Вячэрніку ў дзень Уваскрасення. А мы павінны спрабаваць адшукаць адказ перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Езус зрабіў усё, каб быць з намі назаўсёды. Рыхтуючыся падчас Вялікага посту да Вялікадня, будзьма з ім хаця б у хвіліну адарацыі.

### III НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

**Лк 13, 1–9**

У той час прыйшлі некаторыя і расказалі Езусу пра галілеян, кроў якіх Пілат змяшаў з іх ахвярамі. Езус адказаў ім на гэтае: “Думаце, што гэтыя галілеяне былі большымі грэшнікамі за ўсіх галілеян, бо так пацярпелі? Не. Кажу вам, але калі не пакаецеся, усе таксама загінеце. Думаеце, што тыя васемнаццаць, на якіх звалілася сілаамская вежа і забіла іх, былі больш вінаватыя за ўсіх людзей, якія жылі ў Ерузалеме? Не. Але кажу вам, калі не пакаецеся, усе таксама загінеце”.

І расказаў вось якую прыпавесць: “Адзін чалавек меў у вінаградніку сваім пасаджаную смакоўніцу і прыйшоў шукаць плоду на ёй, і не знайшоў. І сказаў вінаградару: «Вось я трэці год прыходжу шукаць плоду на гэтай смакоўніцы, і не знаходжу. Ссячы яе. Навошта яна займае зямлю?» Але той сказаў яму ў адказ: «Пане, пакінь яе на гэты год. Я абкапаю яе і абкладу ўгнаеннем. Можа, прынясе плод у будучым, а калі не, ссячэш яе»”.

### БОЖАЯ ЦЯРПЛІВАСЦЬ

Так шмат гаворыцца пра Божую міласэрнасць: што Бог будзе памяркоўны, што дастаткова толькі перад смерцю шкадаваць за грахі, што так на самой справе, цяжкія грахі – рэдкасць. У выніку, хтосьці недасведчаны можа падумаць, што Бог – гэта такі дабрадушны дзядуля, які бывае празмерна паблажлівы да сваіх унукаў. Звычайна ў шкоду для апошніх.

Кожны з нас, створаны па вобразе Божым і адкуплены крывёю Збаўцы, не можа адчуваць сябе “бяспечным”. Ніхто не можа адпачываць на лаўрах у імкненні да дасканаласці. Унутраны неспакой у клопаце пра плён павінен быць адной з асноўных частак нашага штодзённага духоўнага жыцця. Божая міласэрнасць праяўляецца ў Божай цярплівасці і ў кожным чарговым шансе на ўзрастанне і плён. Важна ўсё: час, Вялікі пост, рэкалекцыі...

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Не забыцца аб Найважнейшым



## СЛОВА РЭДАКТАРА

*Кс. Павел Салабуда*

*Перыяд Вялікага посту для многіх з нас з’яўляецца часам інтэнсіўнага пошуку пастаноў. Вельмі часта гэты жэст нашай добрай волі адсоўвае Пана Езуса на другое альбо трэцяе месца. Спачатку мы шукаем такую пастанову, якую нам удасца выканаць. Безумоўна, перабіраючы цэлую “літанію” гэтых апошніх, мы, перш за ўсё, думаем, на што мы здольны і ці хопіць нам сіл. Шкала пошуку вельмі вялікая: пачынаючы ад абмежаванняў тыпу “менш салодкага”, “менш ежы і напояў”, заканчваючы дапамогай бліжнім і тым, каму гэта патрэбна.*

Бывае таксама так, што мы глядзім на ўсе свае пастановы з перспектывы ўласнай асобы, задумваемся, ці будуць прынятыя рашэнні нам карысны, напрыклад: буду менш есці – пахудзею, не буду піць піва – зэканомлю грошы, дапамагу камусьці – можа, і мне гэтая асоба калісьці дапаможа і г.д. А дзе ва ўсім гэтым Пан Езус? Гэта ж Ён Найважнейшы. Ці не забываемся мы пра Яго, перажываючы перыяд Вялікага посту? Пад канец гэтага перыяду мы ўсё больш пачынаем сцвярджаць, што гэта мы пакутуем, мы посцім, а не Пан Езус. Так быць не можа. Гэта Хрыстос пакутуе за кожнага з нас, за тое, каб людзі былі шчаслівымі, за нашае жыццё, за ўсё, што мы маем. Любоў Бога да нас бязмежная. Менавіта падчас перыяду Вялікага посту мы асаблівым чынам можам гэта адчуць – любоў Збаўцы да стварэння. Прыгожа пра крыж як таямніцу любові Бога сказаў папа Францішак падчас аднаго са сваіх разважанняў: “Хрысціянства – гэта не філасофская дактрына, не праграма жыцця, каб выжываць, каб здавацца выхаваным чалавекам, каб пагадніцца. Усё гэта рэзультаты веры. Хрысціянства ж – гэта асоба: вынесеная на крыж асоба, якая знішчыла сябе, каб збавіць нас, зрабіла сябе грахом. Так, як у пустыні быў узвышаны грэх, тут узвысіўся Бог, які стаў чалавекам, а для нас стаў грахом. На крыжы былі ўсе нашы грахі. Немагчыма зразумець хрысціянства без усведамлення глыбокага тэтага прыніжэння Божага Сына, які прынізіў самога сябе і стаў слугой аж да смерці, і да таго ж, смерці на крыжы, каб служыць”, – падкрэсліў Пантыфік.

**Давайце паспрабуем не згубіцца ў сваіх пастановах. Не забудземся пра ўкрыжаванага Хрыста, які прысутнічае побач з намі. Не можа быць нашага посту, ёсць пост з Езусам. Варта пайсці па Яго слядах, таму што гэта сляды, якія вядуць у неба. Няхай кожная наша пастанова будзе такім “следам” да Езуса. Няхай гэтыя перажытыя 40 дзён прывядуць нас на Галгофу, дзе мы заўсёды будзем памятаць, хто з’яўляецца Найважнейшым для нас і нашага жыцця, дзе мы навучымся жыць. І не забудземся аб Найважнейшым...**

ДЭКАНАТ ЛІДА

# Крупава

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*




*Знешні выгляд святыні*

Гэта адна з самых старэйшых парафій Лідскага дэканата, толькі да II Сусветнай вайны яна называлася проста Крупа. Касцёл у гонар Найсвяцейшай Тройцы быў заснаваны тут у 1460 г. па фундацыі ўдавы Ганны Давойнавай, якая такім чынам выканала “волю мужа нябожчыка Івашкі”. Яе дочкі Алена і Ульяна далучыліся да фундацыі, а вось сын Пётр быў чамусьці супраць. Затое ўжо дачка Пятра Ганна, па мужу Радагольская, у 1545 г. памножыла фундуш сваёй бабкі. У сярэдзіне XVI ст. пры касцёле дзейнічала альтарыя. Аднак у другой палове XVI ст. парафія страціла самастойнасць, і мясцовы касцёл у якасці філіяльнага быў прыпісаны да парафіі лідскай фары.

У 1766 г. у маёнтку Крупа, які належаў тады маршалку лідскаму Нарбуту, была пабудавана капліца.

У 1777 г. у касцёле было чатыры алтары: галоўны – Найсвяцейшай Тройцы, бакавыя – Маці Божай з абразом, намаляваным у рускім стылі, і св. Яна Непамука, а таксама прысценны алтар у гонар св. Яна з Падуі (так напісана ў інвентары, але гэта, хутчэй за ўсё, памылка і маецца на ўвазе св. Антоній).

У XIX ст. святыня згадваецца як філія Лідскай фары ў маёнтку Шукевічаў: драўляная, абшытая ў 1851 г. дошкамі, крытая гонтай. У святыні тры алтары: галоўны – Найсвяцейшай Тройцы, бакавыя – Маці Божай і св. Юзафа. Касцёл стаяў на ўзвышшы парафіяльных могілкаў, там, дзе зараз узвышаецца на пастаменце фігура Найсвяцейшай Панны Марыі.

Верагодна, падчас савецка-польскай вайны 1920 г. драўляны касцёл быў знішчаны. Новы ж вырашылі будаваць ужо з каменю. У 1922 г. інжынер Е. Кулеш склаў праект святыні, падпісаны 28 снежня. Праект быў зменены толькі трошкі – так і не былі пабудаваны вулічная статуя Маці Божай і капліца Пана Езуса, і арыентацыя алтара з паўднёва-заходняй (увaходам перпендыкулярна да дарогі Ліда – Валдацішкі) зменена на паўднёва-ўсходнюю (алтаром на Ліду). У астатнім касцёл цалкам адпавядае задумцы дойлiда. Гэта аднавежавая святыня з рысамі неарамантычнага стылю.

Будаўніцтва пачалося ў 1925 г. і вялося намаганнямі кс. Юзафа Сабалеўскага. У 1928 г. будаўніцтва новага касцёла было завершана. 28 мая святыню пад гістарычным тытулам кансэкраваў віленскі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, і ў Крупе адрадзілася самастойная парафія. Колькасць парафіян перад II Сусветнай вайной дасягала 4000 вернікаў.

У той жа дзень арцыбіскуп асвяціў і касцёльныя званы. Звон “Рыгор” застаўся са старога касцёла, а астатнія чатыры былі адліты ў Германіі: самы вялікі – “Бернардэм” – на сродкі парафіян, меншы – “Францішак” – на грошы Фердынанда Эйсманта, “Юзаф” – на сродкі пробашча кс. Ю. Сабалеўскага і самы малы – “Павел”.



*Галоўны алтар*

Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ўяўляе сабою аднавежавы трохнававы храм з трансептам і пяцігранный апсідай, фланкаванай дзвюма сакрыстыямі. Уваход пазначаны трох’ярусный чацверыковай шатровай вежай-званіцай. Накрыты касцёл двухсхільным бляшаным дахам з вальмамі над апсідай. Над алтаром дах завяршае невялікая сігнатурка.

Інтэр’ер, перакрыты падшыўной дашчанай каробчатай столлю са “сляпым” купалам над сяродкрыжжам, упрыгожваюць тры двух’ярусныя драўляныя разьбяныя алтары ў неагатычным стылі. У цэнтры галоўнага алтара змешчаны абраз Найсвяцейшай Тройцы ў атачэнні фігур св. Юзафа і Маці Божай Ружанцовай, у другім ярусе – абраз св. Антонія. Левы бакавы алтар прысвечаны Маці Божай Вострабрамскай (наверсе абраз св. Тэрэзы ад Крыжа), правы – Найсвяцейшаму Сэрцу Пана Езуса (наверсе абраз св. Францішка з Асізі). Над уваходам знаходзяцца арганныя хоры, якія абапіраюцца на два слупы.

Касцёл дзейнічаў і пры савецкай уладзе, хоць часам без сталага пробашча. Дзейнічае таксама і сёння.



*Пра вялікапосныя пастановы, абмежаванне ў ежы і карысць пакаяннага перыяду ў інтэрв'ю з ксяндзом Антоніем Грэмзам.*

# Вялікі пост – час клопату аб збаўленні

### ШТО З'ЯЎЛЯЕЦЦА ГАЛОЎНАЙ МЭТАЙ ВЯЛІКАГА ПОСТУ?

Усё ў літургіі Вялікага посту мае свой глыбокі сэнс, накіраваны на духоўную падрыхтоўку вернікаў да велікоднай радасці Уваскрасення Хрыста. Па сутнасці, Вялікі пост патрэбны, каб разам з Езусам у нашай шэрай штодзённасці адчуць смак сапраўднага жыцця. Я б нават сказаў, адчуць смагу вечнасці з Уваскрослым Хрыстом.

### ЯК КАСЦЁЛ РАІЦЬ ПЕРАЖЫВАЦЬ ГЭТЫ ПЕРЫЯД?

Перш за ўсё, перад вачыма вернікаў павінен быць прыклад самога Езуса, у Ім патрэбна шукаць сапраўдны ўзор перажывання вялікапоснага часу: пост Хрыста на пустыні, аддаленне спакус д'ябла, асабістая малітва і ахвярная любоў да тых, хто ў патрэбе. Шматвекавая традыцыя і мудрасць навучання Касцёла мае пэўныя выпрацаваныя практыкі: пост, малітва і міласціна. Апрача гэтага, больш цесна злучыцца з Езусам дапамагаюць разважанні Крыжовага шляху, набажэнства Песняў жальбы, а таксама ўдзел у вялікапосных рэкалекцыях і сакрамант споведзі.

### ЯКІЯ ПАСТАНОВЫ МОЖНА І ПАТРЭБНА РАБІЦЬ ПАДЧАС ВЯЛІКАГА ПОСТУ?

Гэта залежыць ад асабістага жыцця кожнага чалавека, ад разумення, што яму перашкаджае ў сапраўдным быцці з Богам. Вернік робіць пастанову з мэтай атрымання багатага духоўнага плёну. Таму пры выбары пастановы важна захоўваць разважлівасць, каб яна сапраўды прывяла да ўзрастання хрысціянскай любові да Бога і бліжняга. Многія людзі адмаўляюцца ад ежы, якая ім больш за ўсё падабаецца, ад прагляду тэлевізара, ад інтэрнэту, абяцаюць змагацца са схільнасцямі да курэння і ўжывання алкаголю. Гэта знешнія пастановы, але варта таксама ўзгадаць і пра пастановы, якія датычацца ўнутранага жыцця: штодзённая малітва, чытанне Святога Пісання і іншай хрысціянскай літаратуры, здзяйсненне ўчынкаў міласэрнасці. Асабліва да выканання ўчынкаў міласэрнасці для душы і цела ў Юбілейны год міласэрнасці заклікае вернікаў папа Францішак.

### НАВОШТА АБМЯЖОЎВАЦЬ СЯБЕ Ў НЕЧЫМ?

Абмежаванне ў прыемных рэчах (у ежы, забавах і іншых справах) людзі часта разумеюць як форму забароны. Насамрэч, канкрэтны вялікапосны ўчынак выбіраецца ў якасці дабравольнай пастановы. Праз яго хрысціянін самаўдасканальваецца. Агульная практыка духоўнага жыцця пацвярджае той факт, што каб атрымаць нешта большае, патрэбна навучыцца аддаваць. Падчас Вялікага посту чалавек вучыцца аддаваць сваю слабасць, прыхільнасць да прыемных рэчаў і грахоўных звычак.

### ЯКАЯ РОЗНІЦА ПАМІЖ ПОСТАМ І ЎСТРЫМАННЕМ?

Пост мае сваю рэлігійную інтэнцыю і спалучаны з момантам адмовы ад нечага дзеля любові Бога і бліжняга. Вельмі часта посным пастановам спадарожнічае малітва, якая дапамагае ў іх трываць. Ва ўстрыманні людзі ставяць на першае месца асабістую карысць: напрыклад, клопат пра ўласнае цела і здароўе ў форме розных дыет. Калі чалавек жадае атрымаць плён для душы праз тую ж адмову ад нейкай ежы, то павінен узбудзіць, у першую чаргу, духоўную інтэнцыю.

### НАКОЛЬКІ АБМЕЖАВАНЫ ПОСТ У ЕЖЫ?

Пост ад мясных страў называецца яксным і захоўваецца ў кожную пятніцу на працягу года (апрача прыпадаючых у гэтыя дні ўрачыстасцей), а таксама ў Папяльцовую сераду. У Папяльцовую сераду і Вялікую пятніцу нас абавязвае як якасны пост, так і колькасны, калі дапускаецца толькі адзін пасілак дасыта. Дарэчы, адмова ад мяса адзін раз на тыдзень з'яўляецца карысным як для цела, так і для душы. Сёння пост носіць больш лёгкі характар, чым гэта было да рэформы поснай дысцыпліны, якую ўвёў блаславёны папа Павел VI у 1966 годзе (Саборная канстытуцыя "Paenitemini"). Старэйшыя вернікі памятаюць, што нельга было спажываць малочных прадуктаў, яек і тлушчу. Цяпер навучанне Касцёла гэтага не забараняе, а ўсё большую ўвагу звяртае на духоўнае вымярэнне посту і барацьбу з грэшнымі схільнасцямі.

### КАМУ МОЖНА НЕ ПАСЦІЦЦА?

Касцёл заахвочвае да фарміравання духа пакуты ад наймалодшых гадоў жыцця (параўн. кан. 1252 ККП). У той жа час, ад якаснага посту па пятніцах вызваляюцца дзеці ва ўзросце да 14 гадоў. Старэйшыя вернікі абавязаны захоўваць пятнічны пост на працягу ўсяго года. Колькасны пост у Папяльцовую сераду і Вялікую пятніцу абавязвае вернікаў ад 18 да 60 гадоў. Падчас якаснага посту (апрача Папяльцовай серады і Вялікай пятніцы) Касцёл дазваляе спажываць мясныя прадукты вернікам, якія выконваюць фізічную працу, знаходзяцца ў далёкім падарожжы або перажываюць хваробу. Паслабленні робяцца таксама для састарэлых людзей і цяжарных жанчын. Саборная канстытуцыя "Paenitemini" дазваляе канферэнцыі біскупаў кожнай краіны ўводзіць змены адносна ўзросту вернікаў і якасці посту, не зьмяняючы пакутнага характару кожнай пятніцы.

### НАКОЛЬКІ ВАЖНЫ ЎДЗЕЛ У РЭКАЛЕКЦЫЯХ ПАДЧАС ВЯЛІКАГА ПОСТУ?

Сутнасцю вялікапосных рэкалекцый з'яўляецца прыняцце заклiку Пана Езуса да навяртання. Мы чуем гэты зварот на пачатку ўскладання на нашыя галовы попелу – "навяртайцеся і верце ў Евангелле". Навукі, канферэнцыі, набажэнствы спрыяюць гэтаму водгуку на заклік Хрыста. Гэта адбываецца праз навяртанне ў сакраманце споведзі і шчырае жаданне трывання ў Божай ласцы. Рэкалекцыі – гэта таксама час, каб праз словы навучання святара і малітвы паяднацца з бліжнімі і паклапаціцца аб збаўленні кожнага чалавека. Прымаючы ўдзел у рэкалекцыях, мы нанова ўсведамляем праўду аб тым, што Езус памёр за нас на крыжы і ўзлюбіў усіх аднолькавай любоўю.

### ЯКАЯ КАРЫСЦЬ ГЭТАГА ПЕРЫЯДУ ДЛЯ САПРАЎДНАГА ВЕРНІКА?

Гэта карысць духоўная, каб сярод зямных імкненняў людзі не забываліся клапаціцца пра вечнае і духоўнае адкупленне, якое кожнаму на крыжы выслужыў Хрыстос. Калі падчас Вялікага посту мы будзем пра гэта памятаць і да гэтага імкнуцца, то, напэўна, не змарнуем пакутнага перыяду і спазнаем сапраўдную радасць Уваскрасення Хрыста, каб жыць з Ім вечна. Гэта і ёсць тая галоўная мэта, да якой мы скіроўваемся на працягу Вялікага посту і ўсяго нашага жыцця.

**Ангеліна Пакачайла**

---

*Паводле вынікаў апытання, праведзенага Цэнтрам даследавання грамадскай думкі, дзеці ва ўзросце 6-12 гадоў у сярэднім праводзяць ля камп'ютара 11 гадзін у тыдзень. Старэйшыя – да 15-га году жыцця – марнуюць у сеціве 17 гадзін, а падлеткі (да 19 гадоў) – 21 гадзіну ў тыдзень. Ды і самая лепшая статыстыка – суседзі, знаёмыя, сваякі ўвесь час наракаюць на тое, што дзеці "жывуць" у інтэрнэце, не вылазяць з сацыяльных сетак ды гульняў. Таму нам, дарослым, варта задумацца і прапанаваць сваім дарагім дочкам і сынам скарыстаць час посту на тое, што сапраўды цяжка даецца, ды адмовіцца ад гаджэтаў.*




### ЗРАБІЦЬ ПАСТАНОВУ

Ці бачылі Вы дзяцей, якія самі добраахвотна прапануюць у якасці пастановы на Вялікі пост адмову ад гаджэтаў? Хоoffline і падтрымайце іх сваім прыкладам, бо цяжка сам на сам змагацца са спакусай на працягу 40 дзён посту, калі побач маці, што перапісваецца з сяброўкамі ў сацыяльных сетках, ці бацька які



*Дзеці таксама прагнуць па-сапраўднаму перажыць пост*

чацца верыць, што такія ёсць, але, як паказвае практыка, падказваюць такую ідэю самі бацькі, якія прагнуць, каб іх кравінячкі пакрысе пачалі вучыцца ўздымацца над сваімі слабасцямі. Таму прапануйце дзецям абраць рэжым па некалькі гадзін гуляе ў "танчыкі".

Каб дзіцяці было лёгка адмерваць час ды радавацца сваім маленькім перамогам, можна разам зрабіць адмысловы каляндар з назвай пастановы і ў канцы дня клеіць налепку, калі ўдалося стрымацца абяцанне.

### ЗНАЙСЦІ АЛЬТЭРНАТЫВУ І ЧАС НА МАЛІТВУ

Для многіх дзяцей тэлефон ці планшэт – гэта неад'емная частка іх штодзённасці, рытуал, без якога ў жыцці ўтвараецца пустка. Страшныя словы, але гэта так. Таму варта задумацца над тым, што можна прапанаваць дзіцяці замест гульняў і сацыяльных сетак, каб яно магло бавіць вольны час. Гэта могуць быць звычайныя хатнія абавязкі: вымыць посуд, прыбраць, дапамагчы гатаваць вячэру, пагуляць з малодшай сястрой ці братам, адрэмантаваць разам з бацькам зэдлік, у якога ўжо некалькі месяцаў таму раз'ехаліся ножкі, узяць у бабулі спіс неабходных прадуктаў, набыць іх у краме і аднесці і г.д. Можна таксама заахвоціць дзіця да творчасці – прапанаваць заняцца вырабам велікодных аздоб, паштовак, намаляваць малюнкі на адпаведную тэматыку. А яшчэ варта прапанаваць больш часу праводзіць з сябрамі, з якімі можна гуляць у настольныя гульні, шпацыраваць па вуліцы, ганяць мяч. Магчыма, гэты вопыт дапаможа ўсвядоміць, што ніякі камп'ютар не ў стане замяніць жывых зносіны.

Але, бадай, самы дзейсны сродак, які дапаможа і вашым дзецям і вам самім, – гэта малітва. Яна будзе надзейнай зброяй у барацьбе з недасканаласцю, спакусамі, а таксама святлом на шляху да глыбокіх душэўных змен. І гэта не толькі традыцыйнае "Ойча Наш", але супольная малітва, прынамсі адзін раз на дзень, напрыклад, вечарам, калі ўся сям'я збіраецца разам; супольны Ружанец; чытанне і разважанне Пісання; сістэматычны ўдзел у Крыжовым шляху і набажэнствах. Паклапаціцеся таксама пра тое, каб дзіця рэгулярна наведвала заняткі рэлігіі (гэта датычыцца дзяцей усіх узростаў, а не толькі тых, якія рыхтуюцца да Першай Камуніі). Яны будуць спрыяць духоўнай фармацыі, без якой вельмі цяжка прымаць правільныя жыццёва важныя рашэнні.

**Кінга Красіцкая**

**P.S.** Прапаноўваючы сваім дзецям рэжым offline, не забудзьце, што ў дарослых таксама ёсць адпаведны тумблер. Толькі ён уключае "бацькоўскі рэжым", які дазволіць адказаць на пытанне: чаму сыны і дочкі ўсё часцей уцякаюць ад рэальнасці і давяраюцца не сваім блізкім, а бяздушным машынам. Адна з прычын банальная – дарослыя неахвотна прысвячаюць свой вольны час дзецям ці проста яго не маюць з-за пастаяннай гонкі за грашыма. Але ёсці і ныя. Пастарайцеся іх знайсці.

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

**Папа Францішак**



*"Навярніцеся да Мяне, – кажа Пан, – усім сваім сэрцам", гэта значыць, не нейкім знешнім актам, а ўсім сваім нутром. Езус, канешне, заклікае нас, каб малітву, міласэрнасць і пакаянне мы перажывалі згодна з праўдай і па-сапраўднаму, пераадольваючы крывадушнасць.*

*Вялікі пост – гэта час дабрачыннага "ўтаймавання" ў нас фальшу, свецкасці і абыякавасці, каб мы не думалі, што ўсё ў парадку, калі толькі я сам адчуваю сябе добра; каб зразумелі, што тое, што сапраўды мае значэнне – гэта не паўсюднае прызнанне, імкненне да поспеху і выгады. Вялікі пост патрэбен для таго, каб знайсці хрысціянскую тоеснасць, г.зн. любоў, якая служыць, а не эгаізм, які карыстаецца іншымі. Давайце разам пойдзем гэтай дарогай як Касцёл, прымаючы попел і ўзіраючыся ў воблік Укрыжаванага. Ён з любові заклікае нас паяднацца з Богам і вярнуцца да Яго, каб знайсці саміх сябе.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас св. Імшы на распачацце Вялікага посту*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*Ці так моцна мы любім Бога, каб адпаведна выкарыстаць ласку Вялікага посту і напрыканцы яго сказаць, што мы перамаглі грэх і адмовіліся ад грахоўных схільнасцей, каб быць бліжэй да Хрыста? Ці дастаткова мы любім Бога, каб, адзначаючы Пасху, сказаць, што мы таксама адзначаем новае жыццё ў Езусе, бо перамаглі грэх? Ці любім мы Езуса больш за ўсё? Вялікі пост – гэта час, каб накіравацца бліжэй да Бога.*

*Калі мы захварэем, то ідзём да ўрача, які нас абследуе і выпісвае лекі. Мы іх прымаем з надзеяй, што яны дапамогуць. Ад пачатку свайго існавання Касцёл рэкамендуе тры наступныя лекі на Вялікі пост з мэтай вылечыць нас ад духоўнай хваробы, прывесці бліжэй да Езуса і перамагчы грэх. Гэтымі лекамі з'яўляюцца тры справы, аб якіх нам нагадвае Евангелле Папяльцовай серады: малітва, пост і міласціна. Езус вучыць аб значэнні гэтых вялікапосных практык. Гэтыя лекі дапамагаюць лячыць душу. Яны пацверджаны шматвекавым досведам Касцёла, дапамагаюць у барацьбе са злым духам, спакусамі і вядуць бліжэй да Езуса.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай у І Нядзелю Вялікага посту*




◆ *Святы Айцец прыбудзе ў Фаціму ў 2017 годзе на ўрачыстасць 100-годдзя марыйных аб'яўленняў. Да гэтага часу вядома было толькі пра жаданне Францішка наведаць гэтае месца. Як паведаміў кс. Карлас Кабэчыньяс, рэктар санктуарыя Маці Божай Ружанцовай у Фаціме, Апостальская Сталіца разглядае дзве даты папскай пілігрымкі: 12 і 13 мая. Францішак будзе чацвёртым Папам, які наведае партугальскі марыйны санктуарый. Раней у Фаціму пілігрымавалі Павел IV, Ян Павел II і Бенедыкт XVI.*

◆ *ЮНЕСКА ўнесла ў спіс сусветнай спадчыны месца хросту Езуса над ракой Іардан. Цырымонія адбылася ў пачатку лютага ў Парыжы. У ёй прынялі ўдзел вікарый іарданскай часткі лацінскага патрыярхата Ерузалема і прадстаўнікі ўрада Іарданii. Арцыбіскуп Марун Лаххам падкрэсліў, што гэта асаблівае месца, таму што "там і ў далейшым чутны голас Хрыста", а для самой Іарданіі яно з'яўляецца "апорай цішыні і бяспекі для ахопленага агнём Блізкага Усходу". Іерарх адзначыў, што выключнасць гэтага месца была прызнана кнігамі Евангелля ўжо дзве тысячы гадоў таму і пацверджана бесперапыннай народнай пабожнасцю.*

◆ *Каталіцкі Касцёл у Італіі хоча скараціць колькасць дыяцэзій: з 226 да 119. Касцёл у гэтай краіне з 48,5 мільёнамі католікаў мае самую вялікую канферэнцыю біскупаў у Еўропе і адну з найбольшых у свеце. Праблема змяншэння колькасці дыяцэзій была закранута Папам яшчэ ў 2013 годзе. Ватыканская кангрэгацыя па справах біскупаў, якая адказвае за юрыдычнае кіраванне дыяцэзіямі, лічыць, што 119 – гэта ідэальная колькасць дыяцэзій для Італіі. Між іншым, трыццаць гадоў таму італьянскі Касцёл меў 325 дыяцэзій.*

◆ *Брытанскія навукоўцы хутка распачнуць праграму даследаванняў над мадыфікаваннем генаў чалавечых зародкаў, якая заключаецца ў ліквідацыі, выпраўленні або замене фрагментаў ДНК у клетках. Згоду на пачатак такіх даследаванняў дало брытанскае Упраўленне па чалавечай пладавітасці і эмбрыялогіі. Каталіцкі Касцёл выказвае свой пратэст адносна гэтых даследаванняў, тлумачачы маніпуляцыі з генамі зародкаў "гульнёй у Госпада Бога", якая можа прывесці да непрадказальных наступстваў. Да гэтых засцярог далучаюцца асобныя вучоныя, упэўненыя ў тым, што мадыфікацыі генаў могуць прывесці да вынікаў, якія выявяцца толькі пасля нараджэння або нават у наступных пакаленнях.*

◆ *Моладзь з паўночна-ўсходняй часткі Лісабона сабрала 2 тоны макулатуры, каб пакрыць кошт паездкі на Сусветныя дні моладзі для асоб, якія не могуць аплаціць падарожжа ў Кракаў. Як паведаміў Рыкарда Аліўейра, саарганізатар збору, сабраная ў выніку акцыі сума трапіць на патрэбы парафіі Маці Божай Маракоў у раёне Алівайш. Збор макулатуры – не першая акцыя, якая служыць збіранню сродкаў на пакрыццё аплаты транспарту ў Кракаў. Раней былі арганізаваны святы напояў і латарэя.*

*credo-ua.org; ekai.pl; pch24.pl*

***Анґеліна Пакачайла***

# З жыцця св. Фаўстыны Кавальскай

***Святая сястра Фаўстына вядомая як найвялікшая прапаведніца Божай міласэрнасці. Яе "Дзённік" прыгадаў свету аб біблейскай праўдзе любові Госпада да чалавека і аказаў уплыў на шматлікія лёсы людзей. Што мы ведаем пра Божую абранніцу? Хто яна?***



Сястра Фаўстына нарадзілася 25 жніўня 1905 года ў вёсцы Глаговец (Польшча) у сям'і Мар'яны і Станіслава Кавальскіх. Была трэцім з дзесяцёра дзяцей. Праз два дні пасля нараджэння была ахрышчана, атрымала імя Хэлена.

Выхоўвалася ў сям'і, дзе жыццё вызначаў Бог. У доме Кавальскіх меўся маленькі алтар з металічным распяццем і дзвюма фаянсавымі фігуркамі – Найсвяцейшага Сэрца Езуса і Беззаганнага Сэрца Марыі. Маці з малых гадоў вучыла дзяцей праўдам веры. Рыхтавала іх да Першай святой Камуніі. Бацька зачытваў дзецям біяграфіі святых. Ранкам будзіў іх спевам рэлігійных песень, а па вечарах збіраў усю сям'ю на малітву.

Як успамінала маці, Хэлена моцна любіла маліцца. Нават ноччу ўставала і схіляла калені. Казала: *"Матуля, мяне, напэўна, анёл будзіць, каб я не спала, а малілася"*. Дзяўчынка з дзяцінства была чуллівай. Заўважала вакол сябе бедных людзей, імкнулася ім дапамагчы. Аднойчы надзела старое матчына адзенне і пад выглядам жабрачкі ха-дзіла з дома ў дом. Сабраныя грошы перадала праз мясцовага пробашча патрабуючым. Усе любілі і паважалі Хэлену. Яна была працавітай і добрай, вясёлай і ветлай, пакорнай і ціхай, *"абранай і самай лепшай з дзяцей"*, – узгадвала маці.

З ранніх гадоў дзяўчынка шмат распавядала дзецям пра святых, паломнікаў і пустэльнікаў, аб якіх даведвалася з кніг. *"Казала нам,* – успамінаў брат Станіслаў, – *што калі вырасце, пойдзе ў манастыр, а мы смяяліся над гэтым. Мы не разумелі яе"*.

Сваё пакліканне да службы Богу маленькая Хэлена адчула яшчэ ва ўзросце 7 гадоў. Скончыла няпоўныя тры класы школы. Каб дапамагчы сям'і, працавала ў багатых людзей.

У 16-гадовым узросце Хэлена папрасіла дазволу бацькоў уступіць у манастыр. Хоць Кавальскія і былі богабаязнымі людзьмі, ім не хацелася аддаваць сваё лепшае дзіця. Бацькі не пагадзіліся, спаслаўшыся на адсутнасць грошай на пасаг. Ва ўзросце 18 гадоў Хэлена паўторна звярнулася з той жа просьбай, і яны зноў адмовілі. Дзяўчына аддалася марнаму жыццю. Але душа яе ні ў чым не знаходзіла радасці.

*"Пэўнага разу,* – успамінае сястра Фаўстына ў сваім «Дзённіку», – *я была з адной са сваіх сясцёр на балі. Пакуль усе цудоўна забаўляліся, мая душа адчувала ўнутраныя пакуты. Пачаўшы танцаваць, я раптам убачыла паблізу сябе Езуса, змучанага, пазбаўленага адзення, усяго пакрытага ранамі, які сказаў мне наступныя словы: «Колькі яшчэ Я буду мірыцца з табою, і колькі яшчэ ты будзеш Мяне падманваць?»" (Дз. 9)*. Усхваляваная, Хэлена цвёрда вырашыла ўступіць у манастыр. *"Наколькі магла, я адкрыла сястры тое, што адбылося ў маёй душы, загадала ёй перадаць маё «бывайце» бацькам і так, у адной сукенцы, без усяго, прыехала ў Варшаву" (Дз. 10)*.

Увайшла ў першы касцёл, які ўбачыла, і стала маліцца аб далейшай волі Божай. Пасля св. Імшы падышла да святара і адкрылася яму. Ксёндз накіраваў дзяўчыну да адной набожнай жанчыны, каб спынілася ў яе да той пары, пакуль не паступіць у манастыр. На працягу года Хэлена працавала памочніцай у доме, каб зарабіць сабе на сціплы манаскі пасаг. 1 жніўня 1925 года паступіла ў Кангрэгацыю Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці. *"Я адчувала сябе незвычайна шчаслівай, мне здавалася, што я ўступіла ў райскае жыццё. З сэрца майго вырывалася толькі падзячная малітва" (Дз. 17)*.

Праз некалькі тыдняў знаходжання ў манастыры настаяцельніца адправіла Хэлену ў Скалімаў для падтрымання здароўя, падарванага з-за практыкаваных у доме і на службе суровых пастоў, а таксама з-за духоўных перажыванняў адносна новага парадку жыцця. Настаўніца пастулята ўзгадвала, што Хэлена мела сваё асаблівае ўнутранае жыццё і, напэўна, з'яўляецца *"мілай Госпаду Езусу душачкай"*. Пастулянтка-аднагодка сястра Шымона Налевайк захаплялася Хэленай, бо *"ўсе заўвагі або знявагі яна прымала з пакорнасцю"*.

Манаскае пасвячэнне адбылося 30 красавіка 1926 года. Падчас урачыстасці дзяўчына двойчы страчвала прытомнасць. Бог даў сястры пазнаць, як шмат ёй патрэбна будзе выпакутаваць. Яна ясна ведала, на што ідзе. Пасля чаго Бог зноў напоўніў яе душу радасцю. Хэлена атрымала новае імя – Марыя Фаўстына.

Радасць сястры крыху згасла ў канцы першага года навіцыята, калі пачаўся перыяд балючага духоўнага вопыту. *"Аднойчы ўва мне з'явілася думка аб тым, што я адрынута Богам. Гэтая страшная думка наскрозь працяла маю душу, ад гэтых пакут мая душа стала паміраць. Я хацела памерці, але не магла" (Дз. 23)*. Настаўніца навіцыята падтрымала сястру і растлумачыла, што праз гэтыя выпрабаванні Бог Айцец падрыхтоўвае яе душу да мацнейшага яднання з Ім.

Першыя манаскія абяцанні сястра склала 30 красавіка 1928 года. На ўрачыстасць прыбылі бацькі. Падчас сустрэчы сястра Фаўстына сказала бацьку: *"Той, каму я дала абяцанне, мой муж і твой зяць"*. Гэты аргумент і шчасце дачкі пераканалі бацькоў, і яны больш не пярэчылі таму, каб яна жыла ў манастыры.

1 мая 1933 года сястра Фаўстына склала вечныя манаскія абяцанні. Падчас урачыстасці яна даручала Езусу ўвесь святы Касцёл, сваю Кангрэгацыю, сям'ю, усіх грэшнікаў, паміраючыя і пакутуючыя ў чысцы душы. Дзякавала за неспасціжны гонар нявесты Хрыста і прасіла ў Маці Божай асаблівай апекі. З таго моманту зносіны сястры Фаўстыны з Богам былі вельмі блізкімі, якімі да гэтага часу ніколі не былі.

У Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці сястра Фаўстына пражыла 13 гадоў. Служыла ў Кракаве, Варшаве, Плоцку і Вільні. Працавала на кухні, у краме пры пякарні, у агародзе і пры манастырскай прыёмнай. Хварэла на сухоты лёгкіх і стрававода, таму больш за 8 месяцаў знаходзілася на лячэнні. Усе цярпенні (не толькі звязаныя з хваробай) пераносіла як добраахвотную ахвяру за грэшнікаў.

Памерла ва ўзросце 33 гадоў 5 кастрычніка 1938 года ў манастыры ў Кракаве-Лагеўніках. Да сённяшняга дня там знаходзяцца яе мошчы. У дзень свята Міласэрнасці 18 красавіка 1993 года папа Ян Павел II беатыфікаваў сястру Фаўстыну, а 30 красавіка 2000 года прылічыў яе да ліку святых каталіцкага Касцёла.

***Анґеліна Пакачайла***

## *5 цікавых фактаў*

***1.*** *Праз некалькі тыдняў пасля ўступлення ў манастыр манахіня перажыла спакусу перайсці ў іншую кангрэгацыю, бо мела мала часу на малітву. Увечары пайшла ў келлю і, лежачы крыжам, убачыла спакутаваны твар Езуса. Яна спытала: "Хто прычыніў Тебе такі боль? – Ты Мне прычыніш такі боль, калі выйдзеш з гэтага Ордэна. Сюды Я цябе паклікаў, а не куды-небудзь яшчэ, і падрыхтаваў мноства ласкаў для цябе" (Дз. 19). Сястра папрасіла прабачэння ў Хрыста і ў той жа момант змяніла прынятае рашэнне.*

***2.*** *Пры жыцці манахіня была ўзнагароджана вялікімі Божымі ласкамі: дарам сузірання, бачаннямі, адкрыццямі, утоенымі стыгматамі, дарам прароцтва і "чытаннем" у душах людзей, дарам містычных заручын.*

***3.*** *Калі ў манастыры стала вядома пра аб'яўленні сястры Фаўстыны, іншыя сёстры пачалі скептычна ставіцца да яе: адны папярэджвалі, каб яна не паддавалася ілюзіям, іншыя прыгаворвалі, што яна істэрычка і выдумшчыца, а некаторыя з павагай казалі, што яна, па ўсёй верагоднасці, блізкая Езусу, калі з такім спакоем пераносіць столькі пакут.*

***4.*** *Сястра засталася незадаволенай напісаннем абраза Езуса Міласэрнага. Вярнуўшыся ў манастырскую капліцу, яна паскардзілася Хрысту: "Хто Цябе напіша такім выдатным, якім Ты ёсць? У адказ пачула: Не ў характве фарбаў або пэндзля заключаецца веліч гэтага абраза, а ў Маёй ласцы" (Дз. 313).*

***5.*** *"Дзённік", вядомы сёння ва ўсім свеце, сястра Фаўстына вяла апошнія 4 гады жыцця.*

# Заява Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі



**Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі на 61-ым пленарным пасяджэнні 4 лютага 2016 г. абмеркавала пытанне, звязанае з нядаўнім выказваннем Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леаніда Гулякі, якое датычыла дзейнасці каталіцкага Касцёла ў нашай краіне.**

***Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі лічыць неабходным звярнуць увагу на наступнае:***

1. Справа падрыхтоўкі святароў з'яўляецца выключна ўнутранай справай Касцёла, які клапоціцца пра сваю будучыню (дарэчы, у гэтым годзе 19 чалавек распачалі навучанне ў семінарыях Беларусі і ў манаскіх семінарыях за мяжой), і абвінавачваць яго ў незацікаўленасці і недастатковай "працы з кадрамі" беспадстаўна.

2. Каталіцкая тэалагічная акадэмія імя святога Яна Паўла II зарэгістравана. Цяперашні этап – атрыманне зямельнага надзелу, далей – узвядзенне будынка, і толькі пасля гэтага акадэмія распачне сваю дзейнасць, што таксама з'яўляецца выключна ўнутранай справай Касцёла.

3. Іншыя ўзнятыя спадаром Леанідам Гулякам тэмы могуць быць абмеркаваны пры асабістай сустрэчы Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі з Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

***Ад рэдакцыі:***

*У аўторак, 2 лютага, Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі Леанід Гуляка на калегіі апарату Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей заявіў:*

*"Рымска-каталіцкі Касцёл у Беларусі, як і раней, недастаткова актыўна працуе над падрыхтоўкай кадраў. Напрыклад, у Пінскай семінарыі ў 2015 годзе не было ніводнага выпускніка і ўсяго адзін чалавек паступіў на першы курс. У Каталіцкай тэалагічнай акадэміі, што адкрылася ў 2015 годзе, няма ніводнага навучэнца, і, як следства, ёсць кадравая праблема і запрашэнне вялікай колькасці святароў з-за мяжы", – адзначыў Леанід Гуляка.

# Першая ў гісторыі сустрэча Папы і Патрыярха



Падпісаная дэкларацыя закранае шырокі спектр пытанняў

працяг са с. 1

На пачатку сустрэчы кіраўнікі дзвюх хрысціянскіх Цэркваў тройчы абмяняліся брацкім цалаваннем. Пасля першых хвілін размовы прэсу папрасілі выдаліцца з залы. Перамовы адбываліся за зачыненымі дзвярыма больш за дзве гадзіны. Супрацоўнік Папскай рады па садзеянні адзінству хрысціян а. Іакінф Дэстывель адзначыў, што гэта вельмі шмат, "больш, чым любая аўдыенцыя ў Ватыкане". Затым іерархі выступілі і зрабілі заяву для журналістаў.

У выніку перамоў падпісана дэкларацыя, якая змяшчае 30 пунктаў. У ёй кіраўнікі хрысціянскіх Цэркваў заклікалі сусветную супольнасць аб'яднацца ў барацьбе з тэрарызмам, спыніць ганенні на хрысціян і канфлікт на Украіне. Іерархі асудзілі гвалт, эўтаназію, аборты і аднаполыя саюзы. Выказалі заклапочанасць адносна лёсаў мігрантаў і бежанцаў, біямедыцынскіх рэпрадуктыўных тэхналогій. "Хрысціянскае сумленне і пастырская адказнасць не дазваляюць нам заставацца абыякавымі да выклікаў, што патрабуюць сумеснага адказу", – гаворыцца ў заяве.

Асаблівы зварот скіраваны ў бок хрысціянскай моладзі. "Вам, маладым, належыць не закопваць талент у зямлю (Мц. 25, 25), але ужыць усе падараваныя вам Богам здольнасці для зацвярджэння ў свеце ісціны Хрыстовай, для ўвасаблення ў жыццё евангельскіх запаведзей пра любоў да Бога і бліжняга. Не бойцеся ісці супраць плыні, адстойваючы праўду Божую, якую далёка не заўсёды бяруць у разлік сучасныя секулярныя стандарты".

Як паведамляе італьянскае агенцтва ANSA, кіраўнікі дзвюх Цэркваў таксама абмяняліся падарункамі. Патрыярх уручыў Папе копію іконы Казанскай Божай Маці, а Пантыфік падарыў суразмоўцу рэлiквіі святога Кірыла і келіх.

Адразу ж пасля сустрэчы на старонках іерархаў у сацыяльных сетках з'явіліся кароткія запісы. Патрыярх Кірыл падкрэсліў адкрытасць брацкай дыскусіі "з поўным разуменнем адказнасці за свае Цэрквы, за свой верны народ, за будучае хрысціянства і за будучыню чалавечай цывілізацыі". Папа Францішак адзначыў, што гэта быў благаслаўлёны дзень: "Сустрэча з патрыярхам Кірылам – дар Божы. Маліцеся за нас".

**Патрыярх Кірыл раней ужо асабіста сустракаўся з папярэднімі папамі – Янам Паўлам ІІ і Бенедыктам XVI. Гэта было яшчэ да таго, як ён заняў пасаду Патрыярха Маскоўскага і ўсёе Русі.**

На думку экспертаў, сустрэча можа стаць першым крокам на шляху да міжрэлігійнага дыялогу. Зазначана, што ў сучасным свеце хрысціяне пакліканы па-братэрску супрацоўнічаць у абвяшчэнні Евангелля. "Гэты свет, у якім імкліва падрываюцца духоўныя асновы чалавечага быцця, чакае ад нас моцнага хрысціянскага сведчання ва ўсіх сферах асабістага і грамадскага жыцця. Ад таго, ці зможам мы ў пераломную эпоху разам несці сведчанне Духа праўды, шмат у чым залежыць будучыня чалавецтва", – падкрэсліваецца ў дэкларацыі.

**Ангеліна Пакачайла**



*Хвала Хрысту!*
*Дапамажыце, калі ласка, знайсці малітву за пераследуемых хрысціян.*
*Дзякуй.*
*Святлана Пацук*

## Малітва за пераследуемых хрысціян

**Дарагі Езу, Пане нястомнай любові, будзь з нашымі братамі і сёстрамі з усяго свету, якія пакутуць з-за Твайго імя. Мы чуваем і молімся сёння разам з імі. Верны Сябар і Збаўца, Ты ведаеш кожнага з іх па імені. Ты разам з імі трываеш у цярпенні, сам спазнаўшы крыжовую смерць. Няхай тыя, хто плача, адчуюць радасць ад даверу Табе, тыя, хто адчувае боль, няхай знойдуць у Табе ацаленне і адпачынак, а тыя, хто баіцца, атрымаюць Твой супакой і надзею.**

**Пане, молімся таксама, каб тыя, хто іх праследуе, убачылі Тваю веліч і навярнуліся да Цябе. На хвалу Тваю, ласкавы Пане.** Амэн.



**Фрагмент каментарыя арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, адносна сустрэчы Папы Рымскага Францішка з Патрыярхам Маскоўскім і ўсёе Русі Кірылам**

*Усё гэта стала магчыма дзякуючы гістарычнай і беспрэцэдэнтнай сустрэчы тысячагоддзя, якой была доўгачаканая і вымаленая сустрэча Папы Рымскага Францішка і Патрыярха Маскоўскага і ўсёе Русі Кірыла. За ўсё гэта падзякуем Богу, шляхі якога невядомы нікому і які ўносіць свае прыемныя і вельмі патрэбныя сюрпрызы ў наша жыццё. Нягледзячы на існуючыя паміж каталікамі і праваслаўнымі праблемы, Папа і Патрыярх сталі вышэй іх дзеля дабра хрысціянства і свету. Сустрэча, якая прайшла ў духу брацкай любові, адкрытасці, узаемнай адказнасці за лёсы хрысціянства і развіцця цывілізацыі, паказала свету, што нашы Цэрквы могуць сумесна дзейнічаць у справе вырашэння праблем сучаснасці, а таксама сведчыць хрысціянскія каштоўнасці і бараніць іх.*

*Папа і Патрыярх падкрэслілі вострую неабходнасць не толькі словамі, але і канкрэтнымі дзеяннямі імкнуцца да адзінства хрысціян, а таксама сумесна сведчыць Евангелле і адказваць на выклікі часу.*

**catholic.by**

# Рахунак сумлення




Працяг з папярэдняга нумара

Чарговым абаронным механізмам з'яўляецца рэпрэсія – спіхванне ўсяго ў падсвядомасць пачуцця сваёй віны замест таго, каб пакорна прызнаць здзейснены грэх і яго наступствы, а таксама стаць з усёй гэтай праўдай перад Богам. Тады чалавек не хоча праводзіць грунтоўнага аналізу сваіх учынкаў і кажа, напрыклад, "краў", але не ўдакладняе, што іменна ўкраў: яблык у садзе, машыну, грошы ці іншую рэч. Можа нават сказаць, што ўкраў ланцуг, але не ўзгадае, што да яго была прывязана карова.

Трэба таксама абавязкова ўлічваць усе іншыя акалічнасці, якія ўплываюць на цяжар граху. Тэолагі маралісты пералічваюць сем такіх акалічнасцей: хто, што, дзе, калі, як, навошта і якімі сродкамі. Ёсць розніца ў граху крадзяжу ста рублёў і ста тысяч рублёў. Нашмат цяжэйшы будзе грэх, здзейснены ў касцёле, чым у іншым месцы. Таксама большую ступень крыўды мае той самы грэх, здзейснены ў дачыненні да беднай бабулі, чым да багатага міліянера і да т.п. Падобная сітуацыя назіраецца тады, калі хтосьці прызнаецца толькі ў тым, што зграшыў супраць шостай запаведзі, але не акрэслівае дакладна, які гэта быў грэх, з якой асобай, ці, можа, сам з сабой, або таксама грэшныя думкі, жаданні ці памкненні. Трэба таксама задумацца, якія наступствы меў гэты грэх, якая крыўда была учынена. Усё гэта абавязкова павінна быць вызнана на споведзі.

Яшчэ адным механізмам з'яўляецца рацыяналізацыя, г.зн. самаапраўданне, што выканаены грэх на самой справе не такі вялікі, якім здаецца. Так хтосьці прызвычаіўся казаць, што, напрыклад, нерэгулярна ўдзельнічаў у нядзельнай святой Імшы альбо цяжка працаваў у нядзелю, але не растлумачвае, па якой прычыне і колькі разоў гэта ў яго здарылася. Самаапраўданне прыводзіць да таго, што чалавек не вызнае дадзены грэх на споведзі, хоць павінен гэта зрабіць.

Разам з цяжкімі грахамі абавязкова трэба прыгадваць іх тып, колькасць і акалічнасці, якія змяняюць род граху. Ёсць розніца: здзейсніць той жа грэх адзін раз альбо некалькі. Такую з'яву можна заўважыць асабліва ў выпадках п'янства, крадзяжу, нячыстасці, прапускання нядзельных святых Імшаў і інш. У рахунку сумлення мы таксама павінны задумацца над прычынамі, якія непасрэдна прыводзяць да грахоўных падзенняў. Тады лягчэй можна будзе распачаць працу над сабой і ў будучыні пазбегнуць гэтых грахоў, а таксама лепш убачыць шлях свайго жыццёвага паклікання. Недастаткова толькі падумаць пра тое, што дрэннага здарылася. Грахом з'яўляецца таксама кожнае занядбанне выканання дабра, да чаго мы абавязаны. Такія грахі таксама павінны стаць прадметам рахунку сумлення.

Самы просты спосаб правесці рахунак сумлення – прааналізаваць сваё жыццё паводле дзесяці Божых запаведзей, сямі галоўных грахоў і касцёльных наказаў. Можна для гэтага выкарыстаць малітоўнік і змешчаныя ў ім адпаведныя пытанні. Рахунак сумлення будзе праходзіць лягчэй, калі ў нашае жыццё ўвойдзе звычай часта спавядацца і штодзённа рабіць рахунак сумлення, напрыклад, пасля вячэрняй малітвы.

**Кананічнае права (кан. 988) патрабуе, каб споведзь адбывалася пасля дакладнага рахунку сумлення. Споведзь без яго несапраўдная, а пры некаторых абставінах нават святакрадская. А ў выпадку забывання нейкага цяжкага граху, яго трэба далучыць і вызнаць падчас бліжэйшай споведзі. З гэтай хвіліны, ідучы да споведзі, давайце звяртаць большую ўвагу на рахунак сумлення.**



**З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ**

**ekai.pl**

**500 папскіх ружанцаў для вязняў**

***Папа Францішак падарыў асуджаным з турмы ў Падуі ружанцы.***

*Святы Айцец зрабіў гэта па просьбе аднаго са зняволеных, які месяц таму прымаў удзел у прэзентацыі яго кнігі "Міласэрнасць – гэта імя Божае". 30-гадовы кітаец трапіў у турму ў Італіі. Ужо за кратамі ён даведаўся пра Евангелле і прыняў хрост.*

**У Аўстрыі падчас Вялікага посту будуць высылаць "SMS ад Папы"**

***Каталіцкі Касцёл у Аўстрыі зноў прапануе карыстальнікам мабільных тэлефонаў дасылаць паведамленні з цытатамі папы Францішка.***

*Цытаты былі адабраны з выступленняў і пропаведзей Святога Айца ў трэці год пантыфікату, а таксама з выбраных запісаў Папы ў Twitter. Яны з'яўляюцца стымулам для асабістай веры, а таксама матывацыяй для захаочвання да актыўнага хрысціянскага жыцця.*

*Пераадрасацыя такіх SMS бясплатная і даступная для ўсіх карыстальнікаў мабільных сетак Аўстрыі.*

**Catholic.by**

**Студэнты пабудавалі са снегу капліцу на 140 парафіян**

***Святыня, якая паўстала дзякуючы намаганням каталіцкіх студэнтаў Мічыганскага тэхналагічнага ўніверсітэта, атрымала тытул Маці Божай Валадаркі Снягоў.***

*"Працавала шмат людзей, капліцы было аддадзена некалькі сотняў працоўных гадзін. Будаваць касцёл – сапраўды вельмі задавальняючая праца, нават калі ён прастаіць толькі нейкі час", – распавёў студэнт Бенджамін Метцгер.*

*Ужо ёсць планы на будучы год: зрабіць капліцу большага памеру, бо ў гэтай людзям цеснавата. Студэнты хочуць дадаць будынку больш складаных архітэктурных элементаў – аркі, аркбутаны і нават вітражы.*

**Кінга Красіцкая**

## Рэліквіі св. Фаўстыны Кавальскай у Сапоцкіне

*Рэліквіі святой сястры Фаўстыны былі ўнесены ў парафіяльны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне ў Юбілейны год Божай міласэрнасці.*



Нагодай да ўнясення рэліквій стаў парафіяльны Дзень хворых. У снежні 2015 г. пробашч парафіі кс. Антоній Абухоўскі з групай парафіян асабіста атрымаў рэліквіі ў Кракаўскіх Лагеўніках, дзе пахавана с. Фаўстына. Кс. Антоній прагне, каб штодзённая прысутнасць рэліквій у святыні пабуджала вернікаў да яшчэ большага культу Божай міласэрнасці і частай малітвы Вяночкам да Божай міласэрнасці.

Рэліквіі ў святыню ўнёс у працэсіі дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Іерарх адзначыў, што такім чынам парафіяльная супольнасць выбрала сабе чарговага апекуна і была даверана штодзённай апецы вялікай святой, дзякуючы якой свет пачуў пра Бога, багатага на міласэрнасць. Біскуп заахвоціў вернікаў праз заступніцтва гэтай вялікай святой прасіць Божай міласэрнасці найперш для сябе саміх, сваіх блізкіх, парафіяльнай супольнасці і ўсяго свету.

## У Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне прайшлі "запусты"

*Навучэнцы разам з выхавацелямі сабраліся разам, каб весела правесці час перад саракадзённым перыядам навяртання і перамены жыцця.*



Самыя лепшыя ўражанні засталіся ў прысутных пасля выступлення семінарыстаў, якія выканалі шмат знакамітых і пранізлівых песень.

Цёплая і шчырая атмасфера спрыяла таму, каб прысутныя адчулі вялікую асалоду ад магчымасці дзяліцца радаснымі момантамі свайго жыцця і працягваць будаваць адносіны паміж членамі семінарыйнай супольнасці ў духу сапраўднай хрысціянскай любові.

## Бп Юзаф Станеўскі памаліўся за вучняў школы ў Рацічах

*11 лютага, калі каталіцкі Касцёл адзначае Сусветны дзень хворых, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі наведаў парафію Узвышэння Святога Крыжа ў Гальнцы. Там ён памаліўся за вучняў школы ў Рацічах, шпіталізаваных у гэты дзень з прыкметамі атручвання. Школа знаходзіцца на тэрыторыі гэтай парафіі.*



У парафіяльнай святыні біскуп Юзаф цэлебраваў св. Імшу, падчас якой маліўся за ўсіх, каго закранула гэтая падзея: дзяцей, іх бацькоў, урачоў, якія аказваюць ім медыцынскую дапамогу, настаўнікаў і адміністрацыю школы ў Рацічах.

Падчас Эўхарыстыі з нагоды Сусветнага дня хворых біскуп удзяліў вернікам сакрамант намашчэння хворых. Іерарх памаліўся за ўсіх хворых, пажылых і церпячых людзей. "У нашым цярпенні мы не можам заставацца адны, але трэба нястомна адкрывацца і шукаць Божай міласэрнасці", – падкрэсліў іерарх.

## Попел – не прыніжэнне, а шанс на асабістае выпраўленне

*Задаць сабе пытанне аб сапраўднай матывацыі штодзённага выбару і ўчынкаў, а таксама вярнуцца да супольнай малітвы ў сям'і заахвоціў вернікаў у Папяльцовую сераду дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.*



На пачатку новага літургічнага перыяду іерарх узначаліў св. Імшу ў катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. У Эўхарыстыі прынялі ўдзел дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB, выкладчыкі і навучэнцы Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі, а таксама шматлікія вернікі.

Іерарх прапанаваў удзельнікам літургіі перажыць час велікапоснага пакаяння на малітве. Заахвоціў прысутных вярнуцца да малітвы сужэнскай і сямейнай – разам з дзецьмі, адзначыўшы, што форм такой малітвы існуе вельмі шмат.

Кс. бп Юзаф нагадаў, што Вялікі пост – гэта шанс на выпраўленне адносін з іншым чалавекам і час выпраўлення зла, учыненага іншаму. Таксама іерарх патлумачыў глыбокую сімволіку абраду, які адбыўся падчас Імшы: "Прымаючы попел на нашы галовы, мы ўсведамляем, што гэта не прыніжэнне, але дадзены Богам шанс на асабістае выпраўленне".

## Семінарыю ў Гродне наведалі прадстаўнікі міжнароднага руху "Pro-life"

*Прадстаўнікі міжнароднага руху "У абарону жыцця" (Pro-life), што займаецца абаронай чалавечага жыцця з моманту зачацця да натуральнай смерці, падзяліліся вопытам сваёй дзейнасці. Дзякуючы іх працы, было ўратавана не адно жыццё, якому пагражала смерць ва ўлонні маці.*




Прадстаўнікі фонду рэгулярна наведваюць абартарыі, дзе моляцца за ненароджаных дзяцей і іх маці, спрабуюць пераканаць жанчын адмовіцца ад аборту.

Падчас канферэнцыі дзеячы руху ўзгадалі аб тым, што менавіта святар павінен шукаць любыя шляхі для адраджэння сапраўдных сямейных каштоўнасцей і быць дарадчыкам у вырашэнні розных жыццёвых праблем.

## У гродзенскім гарадскім шпіталі памаліліся за хворых і церпячых

*11 лютага ва ўспамін Маці Божай з Лурда, у Сусветны дзень хворых, прадстаўнікі службы аховы здароўя сабраліся ў Гродзенскімі гарадскім шпіталі №2, каб памаліцца за хворых і церпячых. Св. Імшу ўзначаліў кс. Віталій Сідорка, адказны за душпастарства медыкаў у Гродне.*



На малітве сабраліся хворыя шпіталя і медыцынскі персанал. Падчас казання кс. Віталій заклікаў людзей не адносіцца да хваробы выключна негатыўна. Ён адзначыў, што калі Бог штосьці допускае ў жыцці чалавека, то ў гэтым ёсць нейкі сэнс. "Трэба глядзець на цярпенне ў кантэксце Божага збаўлення і перспектывы вечнага жыцця", – падкрэсліў святар і нагадаў, што "чалавек у хваробе і цярпенні цалкам агаляецца, змяняюцца яго каштоўнасці, і ён адкрывае для сябе, што з'яўляецца сапраўдным шчасцем і яго збаўленнем. Важна зразумець таямніцу цярпення, з пакорай прыняць яго і шукаць у ім Божую волю".

Хворым шпіталя ксёндз удзяліў сакрамант намашчэння хворых. Пасля св. Імшы медыкі наведалі цяжка хворых у хоспісе.

## АНОНСЫ

***У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі, спадара Мішкіна Аляксандра Генрыхавіча, які 23 чэрвеня 2002 года ўзяў шлюб з Кулагай Аксанай, просім з'явіцца ў сядзібу суда ў Гродне па адрасе: вул. К. Маркса, 4 або патэлефанаваць па нумары: (8-0152) 75-64-37 ці (8-033) 657-54-36 (МТС).***

*Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці іншую інфармацыю аб месцы знаходжання Мішкіна Аляксандра, просім паведаміць у Касцёльны суд.*

## РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ДУШПАСТАРСТВА СТУДЭНТАЎ І ПРАЦОЎНАЙ МОЛАДЗІ "OPEN" ПРОЙДУЦЬ У ГРОДНЕ

***Рэкалекцыі на тэму "Эўхарыстыя – школа міласэрнасці" адбудуцца 25–27 лютага. Да ўдзелу ў рэкалекцыях запрашае душпастар моладзі кс. Антоній Грэмза.***

*Месцам правядзення духоўных практыкаванняў стане гродзенскі рэктаральны касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі.*

**Праграма рэкалекцый:**




**25 лютага**
- 19.15 – святая Імша з канферэнцыяй
- 20.15 – працяг канферэнцыі (сустрэча ў зале). Сведчанне рэкалекцыяніста. Пытанні і адказы.

**26 лютага**
- 19.15 – святая Імша з канферэнцыяй
- 20.00 – разважанне Крыжовага шляху
- 20.45 – выстаўленне і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту (магчымасць прыступіць да сакраманту пакаяння). Бласлаўленне Найсвяцейшым Сакрамантам

**27 лютага**
- 19.15 – святая Імша з канферэнцыяй (пасля – час на сведчанне або канцэрт праслаўлення і заканчэнне)

*Сёлета рэкалекцыі для моладзі правядзе кс. Павел Рудзьман, душпастар моладзі Пінскай дыяцэзіі.*

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### Як Вы перажывеце Вялікі пост?




*У чарговым апытанні мы прапанавалі нашым чытачам выказацца аб тым, як яны перажываюць перыяд Вялікага Посту. Рашучая большасць адзначыла, што стараецца захоўваць усе малітоўныя практыкі, а таксама выконваць велікапосныя пастановы. Перыяд Вялікага посту – гэта час перажывання Мукі і Смерці Хрыста. Гэта час, калі мы па-асабліваму спасцігаем і перажываем таямніцу нашага адкуплення.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



**Кс. Павел Салабуда**

*Рэзультаты велікапоснага апытання пацвярджаюць, што нашыя вернікі сур'ёзна ставяцца да перыяду Вялікага посту. Усё больш і больш людзей прымаюць удзел у набажэнствах Крыжовага шляху і Песняў жальбы, бяруць разнастайныя пастановы. Гэты час паказвае духоўную моц нашага народу. Перажываючы таямніцу Мукі і Смерці Пана Езуса, кожны з нас становіцца сведкам збаўлення ўласнага жыцця і ўласнай душы. Давайце ж пастараемся перажыць гэты час навяртання і пакаяння, памятаючы таксама пра ўчынкі міласэрнасці адносна душы і цела.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**21 лютага 1979 г.** – кс. Станіслаў Казлоўскі, *проб. Баруны;*
**24 лютага 1958 г.** – кс. Уладзіслаў Мончка, *проб. Лунна;*
**28 лютага 1947 г.** – кс. Юзаф Плева, *проб. Астрына;*
**28 лютага 1996 г.** – а. Генрых Навакоўскі OFMConv., *проб. Жодзішкі;*
**1 сакавіка 2000 г.** – кс. прэлат Юзаф Грасэвіч, *проб. Каменка.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




*Вось і прыйшоў час падвесці вынікі апытання, прапанаванага ў апошнім нумары газеты за 2015 год. Цешыць, што некаторыя з Вас узяліся за паперу і даслалі свае меркаванні ў рэдакцыю. Трынаццаць лістоў адзначаны прызамі. Хутка яны трапяць да сваіх уладальнікаў. А пакуль што прааналізуем Вашы адказы.*

Прыемна здзівіла, што палова рэспандэнтаў з'яўляюцца пастаяннымі чытачамі "Слова Жыцця": набываюць газету на працягу 15-18 гадоў. Астатнія чытаюць выданне апошнія 3-6 гадоў. Чаму? ***"Газета цікавая",*** у ёй раскрываюцца шматлікія тэмы, якія ***"кранаюць за жывое".*** Выданне ***"карыснае ў рэлігійнай адукацыі", "дапамагае ў маральным выхаванні".*** З газеты "***пазнаю шмат новага", "многаму вучуся". "Часамі, калі ў мяне кепскі настрой, злосць або крыўда на кагосьці, я чытаю «Слова Жыцця» і супакойваюся, прабачаю бліжніх, стараюся рабіць менш дрэнных учынкаў". "Намагаюся як мага больш нумароў захаваць, каб праз нейкі час вярнуцца да прачытанага".*** Некаторыя называюць "Слова Жыцця" любімай газетай, якую чытаюць ад "А" да "Я".

Большасць рэспандэнтаў лічыць выданне патрэбным, бо з яго можна даведацца аб жыцці Касцёла, і асабліва вернікаў Гродзенскай дыяцэзіі. 84% апытаных чытаюць кожны нумар газеты, 8% – час ад часу і яшчэ 8% – у інтэрнэце. Амаль усе рэспандэнты пазнаёміліся з газетай у касцёле.

Цешыць, што большасць чытачоў распавядае пра тое, аб чым даведалася з газеты, сваім сябрам, знаёмым, калегам. ***"Нашу з сабой і зачытваю", "дару", "даю чытаць праваслаўным, пасля чаго абмяркоўваем і вучымся адзін у аднаго". "Распавядаю знаёмым пра праўды веры, аб якіх даведваюся з рубрык «Слова рэдактара», «Слова для жыцця», «Разважанні з Божым словам». Імкнуся данесці людзям, што вера – гэта вялікая таямніца, перададзеная нам Богам".***

Высветлілася, што знешні выгляд задавальняе чытачоў. Прагучала і цікавае меркаванне, што ***"не па адзенні сустракаюць".***

76% рэспадэнтаў пачынаюць чытаць "Слова Жыцця" з першай старонкі, 24% – з апошняй. Найбольш цікавыя рубрыкі, на погляд чытачоў, гэта "Слова рэдактара", "Лепш пытаць, чым памыляцца", "Разважанні з Божым словам", "Ад шчырага сэрца". На наступнай пазіцыі размясціліся рубрыкі "На службе Богу", "Учора, сёння, заўтра", "Варта ведаць", "Адпачынак са «Словам»", "Каляндар падзей", "Знаёмімся з нашымі касцёламі". Крыху менш зацікаўленасці да "Слова для жыцця", "З каталіцкага друку", "На скрыжаванні", "Фотафакта". Кожны выказаў сваё меркаванне наконт таго, без якой рубрыкі газета магла б абысціся. Супадзенняў амаль што не выяўлена. А гэта сведчыць пра тое, што погляды чытачоў разыходзяцца і засяроджваць увагу на гэтым пытанні няма сэнсу.

Рэспандэнты выказаліся, што найбольшую зацікаўленасць выклікаюць гісторыі навяртанняў, пакліканняў, цудаў. У душу западаюць евангелізацыйныя публікацыі, якія ***"дапамагаюць шукаць Бога", "паглыбляюць змест веры".*** Карысна даведацца аб літургічных святах, звычаях, таямніцы Божай міласэрнасці, звярнуцца да выказванняў іерархаў, Божага слова. Прыцягваюць увагу аповеды пра святых, святароў, святыні. Заўсёды актуальнымі застаюцца тэмы сям'і, жыццядзейнасці Касцёла ў Беларусі і свеце.

Сярод артыкулаў, што засталіся ў памяці – "10 прычын маліцца Ружанцам", "Кс. Міхал Ластоўскі: знайдзі час на Ружанец", "У Ружанцы – сіла", "5 спосабаў добра перажыць св. Імшу", "Хто без граху?", "Via Dolorosa", "Бог адкрывае сэрца і пранікае ў душу", "На Святой Зямлі асвяцілі табліцы з надпісамі па-беларуску", "Абрад вігілійнай вячэры", "Юбілейны год семінарыі з Заснавальнікам", "Харызматычныя рэкалекцыі ў Росі і Лідзе", артыкулы пра кс. Чэслава Паўлюкевіча, прыпавесці. Знаходзяць водгукі ў сэрцы чытачоў публікацыі на тэмы Божай міласэрнасці і сям'і. ***"Праводзілі вігілійны вечар па абрадзе, апісаным у газеце". "З задавальненнем чытаю пра святароў і сясцёр, якіх я трошкі ведаю, з якімі мяне зводзіў лёс". "Засталася пад уражаннем ад песні «Магутны Божа», якую вывучыла на памяць". "Дзякуй, што друкуеце «Успамінаем у малітве памерлых душпастараў»".***

Стала вядома, што некаторыя артыкулы напісаны складана, а гэта выклікае цяжкасці ва ўспрыманні. Рэдакцыя абавязкова ўлічыць Вашыя заўвагі.

Адзін з рэспандэнтаў выказаўся адносна прапанаваных у апытанні адказаў. ***"Не падабаецца, што часам не знаходжу патрэбнага варыянта, і, увогуле, не павінна быць адказаў для няверуючых, таму што яны не адкрываюць сайт і газету".*** На гэта трэба заўважыць наступнае: у апытанні прапануюцца аб'ектыўныя варыянты адказаў. Існуе верагоднасць, што чалавек выпадкова зойдзе на сайт і захоча пакінуць у прапанаваным апытанні свой голас. Або, напрыклад, да кагосьці незнарок трапіла газета. Калі не можаце выбраць прапанаваны варыянт, шукайце найбольш прыбліжаны да Вашай думкі адказ.

Яшчэ адна заўвага датычылася выявы Маці Божай Міласэрнасці на першай старонцы газеты. ***"Чаму не пасярэдзіне?".*** Выява знаходзіцца ў правым верхнім куце, таму што па закону перцэпцыі ўвага чалавека першапачаткова скіроўваецца туды. Гэтае месца вельмі важнае, таму менавіта там мы бачым Маці Божую Міласэрнасці. Стыль і афармленне газеты распрацаваны групай спецыялістаў на чале з галоўным рэдактарам для камфортнага ўспрымання чытача. У планах і далей мадыфікаваць знешні выгляд выдання, таму кожнае Ваша меркаванне з'яўляецца каштоўным.

Шмат водгукаў прыйшло ў рэдакцыю адносна таго, што можа зрабіць выданне больш цікавым. Многія з іх узяты пад увагу і будуць адлюстраваны ў наступных нумарах.

Адносна некалькіх прапаноў патрэбна зрабіць некаторыя заўвагі. ***"Можна было б змяшчаць малітвы...".*** Як вы паспелі заўважыць, з пачаткам новага года ў газеце з'явілася новая рубрыка "Езу, Ты гэтым займіся". Рэдакцыя імкнецца дапамагчы знайсці малітвы з розных нагод і ў розных патрэбах. ***"Хочацца больш чытаць пра святых".*** Нагадваем, што з біяграфіямі беатыфікаваных і кананізаваных асоб Вы можаце пазнаёміцца ў раздзеле рубрыкі "На скрыжаванні" пад назвай "Асоба месяца", а таксама з іншых публікацый. Па меры магчымасцей, рэдакцыя і далей будзе змяшчаць у газеце гісторыі з жыцця святых. ***"Дабаўце друкаваных старонак".*** "Слова Жыцця" – адзіная газета на тэрыторыі Беларусі, якая выходзіць рэгулярна кожны другі тыдзень на трох мовах – беларускай, рускай і польскай. Шмат часу пайшло на тое, каб газета чыталася: з'яўляліся цікавыя рубрыкі і тэксты, выданне стала каляровым. Ёсць і іншыя планы – павелічэнне колькасці старонак, выпуск спецыяльных нумароў. Але каб гэта рэалізаваць, патрэбна дапамога людзей і фінансавая падтрымка. З гэтай нагоды рэдакцыя дзякуе ўсім чытачам і заахвочвае да далейшага супрацоўніцтва.

***Рэдакцыя***

**Прызы за запаўненне анкеты атрымліваюць:**

**Тэрэса Карповіч,** *в. Анжадава*
**Ірына Мацкевіч,** *г. Гродна*
**Уладзімір Кузьміч,** *г. Іўе*
**Меланія Пелуновіч,** *г. Гродна*
**Уладзімір Ілюковіч,** *а/г Ліпнішкі*
**Рамуальда Чарнецкая,** *г. Свіслач*
**Наталля Сакалова,** *а/г Тапілішкі*
**Вольга М.,** *г. Гродна*
**Тэрэса Белаусава,** *г. Гродна*
**Лілія Світа,** *в. Міжэвічы*
**Алена Аўдзей,** *в. Вішнеўка*
**Аляксандр Шарко,** *г.п. Воранава*
**Ганна Прохарава,** *в. Вавёрка*




## Чаму служыць пост?

*Хрысціянін з'яўляецца рэалістам, таму ён ведае, што быць чалавекам – значыць быць кімсьці вялікім, бо яго любіць Бог і ён сам здольны да любові. Аднак хрысціянін адначасова знаходзіцца пад пагрозай цынічнасці і амаральнасці людзей, а таксама ўласнай слабасці. Рэаліст ведае, што ён падобны да марнатраўнага сына, у якога быў мудры любячы бацька і якому ніхто не прычыніў крыўды. Сын з прыпавесці Езуса сам учыніў сабе крыўду, сцвярджаючы, што існуе лёгкі спосаб дасягнуць шчасця.*

*Для рэалістаў Вялікі пост – гэта найперш адмаўленне ад таго, што перашкаджае ў іх развіцці і шчасці. Гэта пост ад шуму і наіўнасці. Гэта свядомае адмаўленне ад граху і слабасці. Гэта спыненне легкадумнасці і пошуку толькі часовай прыемнасці любым коштам, нават коштам сумлення, здароўя і жыцця. Вялікі пост – гэта адрачэнне ад эгаізму і цынізму. Гэта пост ад суму і бездапаможнасці, ад пыхі і пачуцця самадастатковасці. Гэта пост, які корміць, бо ежай свядомага і адказнага чалавека з'яўляецца разважанне і разважлівасць, а таксама ўчынкі, вартыя людской годнасці.*

*Вялікі пост – гэта, перш за ўсё, час узрастання ў любові да Бога праз супакаенне, прыватную малітву, сакрамант паяднання. Гэта таксама час узрастання ў любові да самога сябе праз разуменне ўласнай таямніцы, час панавання над сабой і вызвалення сябе ад слабасцей і залежнасцей. Нарэшце, гэта час узрастання ў любові да іншага чалавека праз чуйнасць да яго лёсу (міласціна), праз паяднанне з бліжнімі, а таксама праз навучанне сталай любові.*

***Кс. Марэк Дзевецкі***
*Фрагмент пераклада з сайта katolik.pl*

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ



## Навучэнцы Гродзенскай ВДС прынялі паслугі лектарату і акалітату

У першую нядзелю Вялікага посту навучэнцы III і IV курсаў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне з рук дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі Юзафа Станеўскага атрымалі паслугі лектарату і акалітату, а навучэнцы V курса сталі кандыдатамі да прыняцця паслугі дыяканату.

Падчас святой Імшы семінарысты зрабілі яшчэ адзін вельмі значны крок на шляху да святой мэты: быць тымі, хто працягвае адкупленчую місію Хрыста і з'яўляецца, нягледзячы на сваю абмежаванасць, мастом паміж Богам і людзьмі.











# Млынар

***Прывітанне, Маленькі Сябар! А ці чуў Ты такое выказванне: скупы плаціць двойчы? Гэта значыць, што чалавек, які імкнецца ўсімі спосабамі пазбегнуць растрат, вымушаны разлічвацца за сваю празмерную беражлівасць удвая. Вось, напрыклад, не зашыў дзірку на адзенні, а яна праз нейкі час стала настолькі вялікай, што вопратку было не ўратаваць і бацькам давялося купляць новую. Тое ж адбываецца і ў духоўным жыцці. Калі своечасова не ачысціўся нават ад самага нязначнага, на першы погляд, граху, Цябе могуць чакаць вельмі сур'ёзныя наступствы. "Расколіна" ў сэрцы здольна цалкам пагрузіць душу ў цемру.***

***Сёння прапануем Табе паразважаць над тым, наколькі важныя ў нашым жыцці нават самыя маленькія рэчы.***





*Жыў калісьці на свеце адзін скупы млынар. Яго маленькі вадзяны млын стаяў на беразе невялікай рачулкі. На ўскрайку леса млынар перагарадзіў рэчку плацінай. За ёй збіралася шмат вады: так, што атрымлівалася цэлае возера. Па спецыяльнай трубе вада сцякала з вялікай вышыні на кола вадзянога млына і тым самым прыводзіла яго ў рух. Штодня на млыне перамолвалася шмат мяшкоў збожжа.*

*Аднойчы млынар заўважыў невялікую расколіну ў сцяне плаціны. Яму параілі адразу ж адрамантаваць яе, каб не здарылася якога няшчасця. Але скупы млынар сказаў, што аб такой дробязі нават казаць не варта, і што некалькі кропель, якія прасочваюцца скрозь расколіну, не змогуць пашкодзіць плаціне. На самой жа справе, яму проста не хацелася марнаваць часу і грошай на рамонт. Вечарам расколіна стала шырэйшай. Рабочыя, якія працавалі на млыне, звярнулі на гэта ўвагу млынара і папрасілі яго адрамантаваць расколіну. Але прагнасць млынара зацямніла яго здаровы розум.*

*– Сёння ўжо позна, – сказаў ён, – пачакаем да заўтра.*

*Апоўначы млынар прачнуўся ад моцнага шуму. Ускочыў з ложка, збег па лесвіцы ўніз і ўбачыў, што плаціну прарвала і вада з запруды расцякаецца. Млынар убачыў, што амаль усе яго палі залітыя вадой. Маленькая прычына, а якія вялікія наступствы!*

*Хто заўважыў расколіну ў плаціне?*
*Чаму млынар не захацеў адрамантаваць плаціну адразу?*
*На што спадзяваўся гаспадар млына?*
*Хто папярэджваў яго аб няспраўнасці?*
*Ці можна было б пазбегнуць залітых вадой палёў?*

***Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла***

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Ваш св. Заступнік штодзённа Вамі апекуецца, Маці Божая ахінае плашчом сваёй мацярынскай пяшчоты, усемагутны Бог шчодра адорвае сваімі ласкамі, а Святы Дух напаўняе сваімі дарамі кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з капл. Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**

з нагоды Імянін перасылаем шмат сардэчных пажаданняў здароўя, радасці, душэўнага супакою і добрых людзей побач. Няхай Пан Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца і адорыць благаслаўленнем і ўсімі ласкамі на доўгія гады. Жадаем апекі Маці Божай і св. Заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, узнагародзіць Вас і ўзмоцніць.

*Вернікі з Адамавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, поспехаў у душпастарскай працы, апекі Маці Божай і людской добразычлівасці. Няхай Вашае жыццё будзе шчаслівым і благаслаўлёным, а Бог няспынна адорвае Вас сваімі ласкамі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Адамавічаў*

**Дарагі Ксёндз Пробашч Віталій Внароўскі!**

У Ваш Дзень нараджэння ад усяго сэрца жадаем, каб усё Вашае жыццё было напоўнена Божым святлом, любоўю і супакоем. Няхай Хрыстос будзе Вам адзіным і сапраўдным арыенцірам, а Найсвяцейшая Маці – чулай мамай і апякункай. Дзякуем за наведванне нашых дамоў падчас сёлетняй каляды, за супольную малітву і прыемную размову. Не звяртаючы ўвагі на мароз і непагадзь, Вы неслі нам Хрыста! Дзякуем за тое, што нашыя радасці з'яўляюцца таксама Вашымі радасцямі, а нашы смуткі і цяжкасці – таксама і Вашымі. Няхай Бог благаслаўляе Вас у кожную хвіліну Вашага святарскага жыцця і за ўсё ўзнагародзіць!

*Вернікі з адэльскай парафіі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Велівісу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і душэўнага супакою. Няхай радасць і спакой заўсёды Вам спадарожнічаюць, а цярплівасці і стойкасці хопіць на доўгія гады адданай душпастарскай працы. Няхай Вас заўсёды абмінае смутак і жыццё плыве ў радасці, а Маці Божая асвячае Ваш шлях промнямі сваёй міласэрнасці. Дзякуем за ўсмешку, падтрымку і добрыя адносіны да нас, за працу і намаганні, якія Вы аддаеце на ўпарадкаванне нашага касцёла, каб вернікам было ўтульна ў яго сценах.

*Парафіяне з касц. св. Роха, Грандзічы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Зайко**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шчасця, цярплівасці ў святарскай працы і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Бог заўсёды Вас благаслаўляе, а Маці Божая мае ў сваёй апецы. Дзякуем Вам за добрае, чулае сэрца, вялікую працу і за тое, што Вы навучалі нас дабрыні і любові. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве вернікі з пар. Найсвяцейшай Панны Марыі, в. Рэпля*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Шэмету**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастарскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і св. Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае над Вамі і дапамагае годна пераживаць кожны дзень. Няхай на Вашым твары заўсёды яснее ўсмешка, вочы блішчаць ад радасці, а сэрца моцна б'ецца ад той любові, якая ў ім жыве. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а Ваша праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён.

*Сям'я Ліс*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гардзейчыку**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, шчодрага плёну ў працы на Божай ніве, а таксама Божай дапамогі на нялёгкім святарскім шляху і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень, а побач – добразычлівых людзей.

*Вернікі з пар. МБ Шкаплернай з в. Жукойні-Жалядскія*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Гардзейчыку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, задавальнення ад службы, удзячных вернікаў. Няхай духоўны агеньчык, які Вы запалілі ў нашых сэрцах, не згасне ніколі, а разгараецца з усё большай сілай. Мы дзякуем Пану Богу за Вас і просім Яго і Найсвяцейшую Панну Марыю аб пастаяннай апецы над Вамі.

*Вернікі з капл. МБ Чанстахоўскай, в. Падольцы, Астравецкі раён*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Фядотаву**

з нагоды Дня нараджэння прагнем скласці сардэчныя пажаданні шчодрых Божых ласкаў і толькі шчаслівых хвілін. Жадаем шмат радасці ў душпастарскай паслузе, а таксама сілы для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай усе людзі, якіх Вы сустрэнеце на сваім святарскім шляху, адорваюць Вас дабрынёй і зычлівасцю, а ўсемагутны Бог няхай спасылае на Вас свае шчодрыя дары. Няхай Найсвяцейшая Маці ахінае Вас сваёй мацярынскай любоўю і апекай, асабліва ў цяжкія хвіліны, і выпрошвае ў Сына ўсе неабходныя Вам ласкі.

*З павагай "Легіён Марыі" з пар. Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Внароўскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем шмат здароўя, радасці, святла Святога Духа і нястомнай апекі Марыі Панны. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены Божай любоўю і міласэрнасцю, а побач будуць толькі зычлівыя людзі. Дзякуем за шчырасць, дабрыню, вялікае сэрца і цёплую ўсмешку, а таксама за любоў і адкрытасць на ўсіх. Шчасці Божа!

*Сям'я Пілюткевічаў*

**Дарагому Ксяндзу Віталію Внароўскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем Божага благаслаўлення, доўгіх гадоў жыцця, здароўя, стойкасці ў душпастарскай працы, дароў Хрыста, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, сталай апекі Панны Марыі, душэўнага супакою, людской добразычлівасці, радасці і надзеі. Няхай добры Бог, які паклікаў Цябе да святарства, шчодра адорвае сваімі ласкамі.

*Бацькі, бабуля, сястра з сям'ёй*

Паважанаму Ксяндзу Юзафу Багдзевічу ў сувязі са смерцю любімай мамы выказваем словы сардэчнага жалю і спачування. Няхай добры Бог прыме яе душу ў сваё Валадарства, а Вам дадасць моцы ў гэтую нялёгкую хвіліну.

*Сем'і Ёдзікаў, Яновічаў, Вайцехоўскіх*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.**; **http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 923 тыраж 5100; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная